


№ 7. ЛІСТАПАД. 1937 г.

# Коцік.

Хлопчык любіць коціка,
Лашыць ён варкоціка,—
Коцік міл яму.
З ім на двор гуляць ідзе;
Часта малачка дае
Ён сябру свайму.
Ходзіць коцік беленькі,
Хвосьцік яго шэранькі,
А бяжыць—стралой!
К хлопцу прытуляецца,
Сьпінкай выгінаецца,
Хвост яго—дугой.

Як убачыць птушачку,
Хутка лапатушачку
Хоча ён схапіць.
Вочкі разгараюцца,
Кіпці выпрастаюцца,
Ён за ёй бяжыць.
Поўсьць у яго чыстая,
Белая пушыстая,
Мяккая, як лён.
Мышкі, сьцеражэцеся!
Ціха... Беражэцеся!
Ўміг вас зловіць ён.

Журба.








# Калажанская царква ў Горадні.

У Горадні над Нёмнам, на прадмесьці т. зв. Каложа, да нашых дзён захавалася царква, якая была пабудована ў XI, найпазьней у XII веку, значыць — гадоў 800 ці болей назад. Гэтая царква ёсьць дарагім памятнікам старадаўнае беларускае архітэктуры ці будаўніцтва, а перадусім — памятнікам Праваслаўнае веры на Беларусі ў тую, так далёкую ад нас пару нашае гісторыі.

Як паўстала і як была пабудована царква на Каложы ў Горадні? Якая доля спаткала яе ў гісторыі?

Каб адказаць на першае пытаньне, трэба прасачыць умовы, пры якіх заснавалася і разбудавалася самая Горадня.

У X–XII веку гісторыя застае ў Горадзеншчыне (таксама ў Наваградчыне, Слонімшчыне, Стаўпеччыне, Меншчыне і інш., г. зн. у вадазборы Нёмна і яго прытокаў) беларускае р племя дрэговічаў або дрыгвічоў. Жылі яны пераважна па рэках. Векавыя пушчы пакрывалі бязьмежныя прасторы гэтых краін. Толькі дзе-недзе чалавек вызваляў з-пад лесу зямлю і пачынаў гаспадарку на ральлі. Пераважнымі заняткамі дрэговічаў былі: паляваньне на дзікіх зьвяроў (куны, дзікі, выдры, лісы, медзьведзі, ваўкі, зубры, туры і інш.), рыбалоўства і бортніцтва. Усё, што здабывалася гэтаю працаю, прадавалася часткаю на мясцовыя, а галоўным чынам на замежныя рынкі, у абмен на розныя тканіны, аружжа, віны, аксаміты, розныя вырабы з жалеза, срэбра і т. п. Гандаль ішоў пераважна па Нёмну і яго прытокам. Але гандляры, пэўне, выкарыстоўвалі і «Вялікі водны шлях з варагаў у грэкі», бо ў некаторых мясцох прытокі Нёмна вельмі блізка падыходзяць да прытокаў Дняпра і можна было „волоком“ перацягваць тавары на другі гандлёвы шлях. Рэкі тады былі адзіным шляхам зносінаў і праваднікамі культуры і асьветы.

Сярод дрыгвічоў у тую пару ўжо пачыналася арганізаванае грамадзкае і дзяржаўнае жыцьцё. Яшчэ да зваваньня вядомых князёў-варагаў (862 г.) пачалі складацца на Беларусі воласьці — князьствы. Князь — найчасьцей прадстаўнік ро-

ду—„зьбіраў зямлю“ і кіраваў народам,—з пэўнага цэнтру, якім зьяўляўся горад, ці раней заснаваны, ці нанова князем пабудаваны. Вёскі валасьцёў цягнулі да гораду, як да свайго цэнтру. У горадзе князь зьбіраў узброеную сілу або дружыну для абароны краю ад ворагаў; у горад, па загаду князя, сьцягваліся адусюль розныя майстры, рамесьнікі і гандляры, якія пачыналі працаваць кожын у сваей галіне; з гораду-ж адпраўляліся ў далёкія заморскія краіны, пад аховай дружыны, караваны караблёў з таварамі. Каб забясьпечыць спакойнае жыцьцё і працу, князь перш за ўсё будаваў у горадзе абаронны замак. З працягам часу паўставалі іншыя будынкі, дзяржаўныя і грамадзкія, і між імі цэрквы і манастыры, як цэнтры тагачаснае духовае культуры.

Так паўставалі ў тую пару ўсе гарады (за сто гадоў да Горадні летапіс называе ўжо на зямлі дрыгвічоў Слонім, Берасьце і Драгічын). Так, пэўне-ж, паўстаў і стары Горадзен (абгароджаны сьцяною), або як цяпер часьцей яго называюць—Горадня. Не выпадкова было выбрана для яе мейсца. Горадня разбудавалася на рубяжы ўсходня-славянскага і заходня нямецкага сьвету і мела сваім прызначэньнем перадусім бараніць ад немцаў свабоду, новую веру і культуру славян. У XII-XIII веку ў Горадні ня раз ідзе крываваe змаганьне з нямецкімі рыцарамі-крыжакамі, такжа татарамі, літоўцамі і інш. Ня раз рыцары дашчэнту руйнавалі ўсё места, але яно йзноў паўставала з попелу і нясло далей сваю службу перад славянствам. Гэтую службу Горадня нясе да сяньняшняга дня.

Гісторыя не захавала нам дакладна ні часу, ні паходжаньня, ні імені закладчыка Горадні. Магчыма, заснаваў Горадню, а мо' на мейсцы існаваўшага ўжо гарадзішча разбудаваў места—аднак не пазьней XI веку—хто-колечы з кіеўскіх удзельных князёў, як думае большасьць вучоных. А мог быць закладчыкам і хто з прадстаўнікоў мясцовага насяленьня. Як бы там, аднак, ні было, але места атрымоўвае перадусім абаронны замак (нядаўнія раскопкі пацьвярджаюць гэта), нават не адзін: ніжэй Горадні будуецца на Нёмне і другі замак—Лішкава (да нашых дзён захаваліся яго руіны). Тут затрымалася далейшае расьсяленьне дрыгвічоў, бо далей ужо ляжаць літоўскія вёскі. З працягам часу каля Горадзенскага замку вырасла вялікае і багатае места. На час разбудовы яго і прыпадае заснаваньне першае ў Горадні праваслаўнае царквы на Каложы, прысвечанае Сьв. Барысу і Глебу.

Гэта была пара пашырэньня праваслаўнае веры сярод славянскіх пляменьняў усходу Эўропы. У цэлым радзе гара-

доў, як Кіеў, Ноўгарад, Чарнігаў, Полацак, Смаленск, Тураў, Пінск, Віцебск, Менск і інш. ўжо існавалі япіскапскія кафедры, пашыралася хрысьціянская асьвета, шырока йшло будаўніцтва праваслаўных храмаў і манастыроў. Ня будзе памылкай лічыць, што ўжо і зямля дрэговічаў, нават на самых далёкіх яе межах, была асьвечана сьвятлом хрысьціянскае веры. Шырокія гандлёвыя зносіны, знаёмства з культураю Захада, прыклад сумежных родных племёнаў—усё гэта не магло не паставіць перад лепшымі і найбольш сьведамымі людзьмі, а перадусім князямі - кіраўнікамі народу, пытаньня аб замене паганскае веры на веру хрысьціянскую, праваслаўную. Хрысьціянства было вялікай арганізуючай, культурнай і моральнай сілай. З хрысьціянствам ішла пісьменнасьць, асьвета, пры тым у роднай, такой блізкай і зразумелай мове. Дык князі і іх прыбліжаныя і пачынаюць клапаціцца аб пашырэньні і ўзмацаваньні на сваей зямлі праваслаўнай веры.

Калажанская царква не захавалася да нашага часу цалком у тым выглядзе, у якім была пабудована. Гісторыю Беларусі, як ведама, напаўняе бязупынная барацьба з усімі яе жахлівымі вынікамі — разбурэньнем і зьніштажэньнем. У такіх умовах трудна было, на працягу стагодзьдзяў, захавацца забыткам старасьвеччыны, памятнікам архітэктуры і мастацтва. Аднак тое, што захавалася, дае магчымасьць больш-менш поўна прадставіць сабе канструкцыйную аснову або галоўныя рысы тагачаснага царкоўнага будаўніцтва.

(Працяг будзе).

## ХЛОПЧЫК І БАБКА.

Дождж суняўся.
Сьвежа,
ясна.
Матылі лятаюць роем.
Па траве
зялёнай,
роснай
бегае дзіця малое.
За дзіцём сьпяшае
Бабка...
Даганяе,
шэпча: «Божа!»
Ты яго дагоніш можа,
моладасьць яго—ніколі,
— так, як цень свой
на дарозе,
так, як вецер
у чыстым полі.

Цім. Аляксеенка.
1936.

## КАЗКА ПРА МУЗЫКУ.

За борам цёмным вялікім,
дзе зачапіўшысь за сасновы
грабень
калышыцца сіняе неба,
жыў сірата-музыка.
Ня меў ён ні двара, ні гароду,
сярмяжку толькі старую —
прыкрыцца калі непагодай
і—жалейку жывую.
А іграў ён заўсёды вясёла,
нат' дрэва, пачуўшы яго, —
хоць-бы найніжэй чупрыну
зьвесіла,—
зашуміць—засьмяецца,
атрасаючы расу і пыл.
Закалышыцца вецер,
і заскачуць, як зайцы на полі,
снапы.
А што ўжо казаць пра людзей!
Хоць жыцьцё незавідным было,
а з музыкам хацелася быць
і жыць...
Вось які быў з яго чарадзей!

— —

Далёка, дзе сонца хаваецца,
а мо' і яшчэ далей,
жыў цар у палацы вялікім.
Ен пачуў ад бывалых людзей,
што на сьвеце ёсьць гэткі му-
зыка, —
загадаў слугам музыку таго пры-
вясьці
ў палац на царскія вочы.
Прывядуць—усіх азалоціць,
інакш—лепш і дамоў ня йсьці.
Ішлі слугі цара дзень і ноч,
і пры сонцы, пры месяцы вы-
сокім —
то лесам, то полем, гарой,
то сухадолам глыбокім...
Аж пачулі: недзе нехта йграе,
толькі дзе і хто—ня відаць
хоць ідуць на дзіўны голас краем
ужо цэлы тыдзень.
Адзін кажа: можа гэта здань?
другі—мо' трава сьпявае?
Толькі трэці, прылажыўшы вуха,
кажа: братцы, тут зямля такая!..
Можа лепей пойдзем да ракі,
ды спытаем, што такое?
Бачыў я—за лесам рыбакі
поюць сонца ў вадапоі.
Аж глядзяць — насустрэч ім ідзе
ў лапцёх лазовых хлопчык не-
вялікі.
І вось паслы ў яго пытаюць: дзе
ў вас жыве такі музыка?
Выняў ён жалейку ды зайграў,
толькі зазьвінела рэха борам,
разьлілося шумам траў,
высыпалі песьню слухаць зоры.,.
Тут усе пазналі, хто прад імі.
Вось паслы і кажуць: хоча цар
адкупіць жалейкі гэтай чар,
разам з песьнямі жывымі.
А музыка кажа:—Бедны мы,
сам я голы, як калок у плоце.
Можа ваш багаты гаспадар
наша ўсё каменьне азалоціць,
але я жалейкі не прадам
ні яму, ні вам ніколі.
І пайшоў музыка ў даль,
у даль вячэрнюю, у поле.

**М. Танк.**

(Працяг будзе).

---

## ЧУШКІ.



Я відзеў раз такіх... сьвіньней
(Ня буду раўнаць іх да людзей).
Яны ўсё елі—спалі,
Нічога больш ня зналі;
І елі так бяз меры, елі, елі!
І спалі ад нядзелі да нядзелі.
А елі смачна, ласа,
Бо... гадаваліся на мяса.

—

Я гэтай байкі ня буду на‘т
тлумачыць,
Бо, хто захоча, сэнс абачыць.

**В. Адважны.**

# Захаваньне чыстаты цела за прыкладам... птушак і зьвяроў...

Мо'ня кожны чалавек так старанна даглядае сваё цела, каб заўсёды яно было чыстым і здаровым, як гэта робяць усе зьвяры і птушкі, свойскія і дзікія. Праўда, у іх—апрача ежы і гнязда—няма больш ніякіх клопатаў ці інтарэсаў; між тым чалавек, апрача здабываньня штодзеннага хлеба, шмат яшчэ траціць часу на справы іншыя, як напрыклад: навуку, чытаньне, хаджэньне ў царкву і на розныя грамадзкія сабраньні,—на гутаркі, гулянкі і г. д. Але гэта німала не звальняе яго ад абавязку захоўваць заўсёды чыстату свайго цела. На тое ён чалавек!

## Захаваньне чыстаты птушкамі.

Паглядзеце на галубоў, гусей, качак, кур: якія яны заўсёды чыстыя, акуратныя, прыбраныя; як часта і старанна перабіраюць дзюбкамі свае пёркі, свае крыльлі, каб не засталося дзе якога бруду ці паразітаў (кузуркі — чужаеды, як вош, блыха), каб усё было на сваім мейсцы і ў належным парадку. Пэўна, не дзеля пажывы толькі качкі ці гусі праводзяць амаль цэлыя дні на вадзе, як не дзеля пажывы курыца купаецца... ў пяску (кажуць — перад дажджом), таксама, як і вераб'і. Пяском яны скідаюць з сябе тых-жа самых паразітаў, якія не даюць жыць, цешыцца здароўем, спакойна займацца сваімі справамі і г. д.



Што да дзікіх птушак: ці бачыў хто калі брудную, замурзаную ластавачку, ці шпачка, ці нават верабейчыка, які найбольш ходаецца каля бруднае часам гаспадаркі селяніна? А як усе яны даглядаюць свае гнязьдзечкі, калі гадуюць дзяцей! У іх там заўсёды прыбрана, чысьценька, хаця птушаняткі жывуць у гнязьдзе, ня вылазячы з яго, па месяцу і болей.



## Захаваньне чыстаты ў зьвяроў.

Тое самае наглядаецца і ў зьвяроў. Возьмем кошку: колькі разоў на дзень кошка чысьціцца і абмываецца ці то сваім маленькім язычком ці насьлюненаю лапкаю! Не забудзе памыць і сьпінку, і галоўку, і брушка, і за вушкамі, і між капцюрамі. А як сьцеражэ, як даглядае і прывучае да захаваньня чыстаты сваіх дзяцей! Нават калі кацянё ўжо добра падрасьце і само прабуе чысьціцца, кошка ўсёроўна шмат разоў на дзень яшчэ абмывае яго.

Наагул усякая жывёла любіць чыстату, бо тады яна адчувае сябе і здаравейшай, шчасьлівейшай, і здальнейшай да жыцьця. Калі гаспадар завядзе ў рэчку каня ці карову і пачне скрабаць скрэблам, шараваць, абліваць вадой, яны стаяць пакорна і задаволена слухаюць, паводзячы вушамі і памахіваючы хвастом. Нашто сьвіньня, якую ўсе лічаць самаю бруднаю жывёлаю. Мо' скажаце—яна ня любіць чыстага хлява, чыстай подсьцілкі, чыстага карыта? А малыя парасяткі: як яны задаволены, калі гаспадыня купае іх у чыстай вадзе! Яны тады хутчэй і растуць. Значыць, захаваньне чыстаты патрэбна для здароўя.



Дзікія зьвяры таксама маюць гэтую патрэбу ці- як гаворыцца па-вучонаму—інстынкт захаваньня чыстаты свайго цела, а праз тое і здароўя. Вавёрка ня была-б такою чысьценькаю, зграбненькаю, вясёленькаю, каб не вымывалася, не абсушывалася на сонейку. Цікава пішуць пра сланя, як доўга і старанна ён мыецца, калі дападзе да вады: ён шмат разоў аблівае вадою з усіх бакоў сваё аграмаднае цела, — аблівае хобатам, быццам пажарнаю трубою.





## Захаваньне чыстаты чалавекам.

Як-жа чалавек? Ці ёсьць у яго інстынкт захаваньня чыстаты цела?

У чалавека гэты інстынкт выяўляецца найбольш, выяўляецца з маленства (прыпомніце, як малыя дзеці любяць, калі іх купаюць). Захаваньне чыстаты ёсьць перадусім азнакай культурных людзей. Культурны чалавек і сам сябе даглядае, і дзяцей сваіх, як мы сказалі, змалку прывучае да захаваньня чыстаты свайго цела, як і наагул да захаваньня ва ўсім меры і парадку. Дзеці культурнага чалавека заўсёды чыста вымытыя, прычосаныя, маюць хай бедную, але заўсёды чыстую вопратку і абутак, — захоўваюць заўсёды і ўсюды парадак, што ні робяць, то ўсё робяць у свой час і у меру: у меру ядуць, у меру гуляюць, у меру сьпяць і ў меру працуюць. Бацькі такіх дзяцей людзі не абавязкава багатыя ці заможныя, не абавязкава высока-адукаваныя ці прывучаныя рабіць толькі чыстую, не „мужыцкую“ работу: у эўрапэйскіх краінах простыя сяляне і работнікі, якія працуюць заўсёды на ральлі або на фабрыцы, у большасьці зусім культурныя людзі. На рабоце ён мае адзін выгляд — чорны, забруджаны, вопратка рваная, замызганая, а прыйшоў з работы, памыўся, пачысьціўся і — чалавека не пазнаць: пасьля адпачынку прыймаецца ён за газэту, кніжку, ідзе у бібліятэку, кіна, тэатр, слухае радыё, ідзе на лекцыю, на сабраньне і г. д. Разумеецца, не аба ўсіх бяз вынятку можна так сказаць, але такіх усюды шмат.

(Працяг будзе).

* * *

Дзе вы, лясоў, палёў цьвяты?
Мароз вас загубіў!
Чаму-ж ён срэбныя цьвяты
На гэтым шкле ўзрасьціў?

Ім, бледным, мёртвым, ня збудзіць
Былога пачуцьця,
Як не змагу яго збудзіць
Халодным вершам я.

М. Багдановіч. 1911.

„СНАПОК“ — царкоўны і культурна-асьветны журнал для дзяцей, з ілюстрацыямі.
на год 1 зл., на 1/2 года 50 гр. з перасылкай.
Цана асобнага нумару 10 гр. з перасылкай.
Падпіска прыймаецца ў рэдакцыі „Слова“:
**Warszawa 4, Paryska 27.**
У справах рэдакцыйнага характару зварочвацца да гр. Сяргея Паўловіча па адрасу: **Вільня, вул. Папоўская, д. 9, кв. 4.** На адказ далучаць значкі паштовыя. На адрас гр. Сяргея Паўловіча прысылаць усе карэспадэнцыі і іншыя матар'ялы.

Warszawa. Drukarnia Synodalna. Paryska 27.